ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# АБРЫСЫ ЛЕТА



ББК 84 Бел 7
Д 81

Рэцэнзент
ЯЎГЕНІЯ ЯНІШЧЫЦ

Лето — это не только пора года, это пора жизни человека, когда что-то сделано, но самое главное и важное еще впереди. Лето — звездное время существования планеты Земля, где человечество открывает тайны Вселенной и на его плечах лежит большая ответственность за нынешний и будущий день.

Д $\frac{4702120200-038}{М 302(03)-88}$ 44—88

ISBN 5-340-00044-3



* * *

Над стылым разводдзем, рачным і лясным,
Умытае сонца ўзлятае.
Пануюць на свеце дзве фарбы вясны —
Блакітная і залатая.

Спякотнае лета буяе красой.
Палетак дазвання прытоіць
Валошкі, як зоркі, паміж каласоў —
Блакітнае і залатое.

Падкрадзецца восень з імжой ды слатой,
А неба вяснова світае.
Дзве фарбы гарацы чысцінёй і тугой —
Блакітная і залатая.

Самотна блукаю. Разліў верасоў.
І лес пра мой боль не пытае.
Дзве фарбы вачэй тваіх і валасоў —
Блакітная і залатая.

Расстайныя песні вецер пяе.
І шэпчуцца кроны густыя,
Што ноччу табе свецяць зоры мае —
Блакітныя і залатыя.

## РУБЕЖ

І год жывеш, і век жывеш,
Ды надыходзіць той рубеж,

Што зразумець сябе пад сілу
Праз папярэднікаў магілы,

Праз іх неразгаданы час,
Праз зорны пыл на іх вачах.

Блукаеш па шляхах надзей,
Пытаеш у старых людзей.

Яны ў адказ часцей маўчаць,
З чаго, не знаюць, распачаць.

Зайшоў назолаю з паклонам,
А можаш выйсці пад праклёны.

Вось праўды соль, вось праўды смак,
Што не даецца проста так.

Яна, як скарб часоў былых,
У нетрах роднае зямлі.

І год жывеш, і век жывеш,
Ды надыходзіць той рубеж,

Калі, каб зразумець другіх,
Свае яднаеш берагі

З трывогамі другіх людзей,
Блукаеш па шляхах надзей.

А як складана іх яднаць,
Бо праўда на усіх адна.

## ЖАЎРУКІ БАГРЫМА

Над Беларуссю нагайкі свісталі,
На Беларусі прыгон ды прыгнёт.
За вольнасць каралі,
за праўду каралі,
За талент каралі вялікі народ.

Ці згіне старонка ў панскай няволі?
Ці волатаў
турмы са свету звялі?
Вечную мару пра светлую долю
З агню і жалеза куюць кавалі.

Молат, кавадла ды сэрца Багрыма.
Іскры — як сноп агнявы —
з-пад рукі.
У горане часу неспапялімыя
Над Беларуссю яго жаўрукі.

## СЛУЦКАЯ БРАМА

Смуткам акенца
брамы замглёна.
Цікаўна турысты
вакол абыходзяць,
хоць брама
ні ўдзень ні ўначы
не замкнёна,
а варта паснула
ў мінулым стагоддзі.

Вал і муры
за ушанскай вадою
мужыцкім потам,
мужыцкай крывёю аброшаны...
Добра зямля радзіла.

Ад Слуцка
крыўда хмарай
плыла над радзімай.
Спела помста,
рыхтавала косы і вілы,
і палатнелі ў мурах
Радзівілы.

Дваццаты век
пешкі
праз браму ступае,
у летнім сонцы яе купае.

А замежным нашчадкам
Радзівілаў
не спіцца,
як песня з Нясвіжа
праб'ецца крыніцай.
Не па былой раскошы
смыляць іх сэрцы —
за Слуцкаю брамай
хацелі б памерці.



З маленства сілу слова знаю —
Заклён, прысуха, варажба.
Старую вёску ўспамінаю,
Дзе ў бабы хата ды вярба.

Багі яе — Бялун у лесе,
Што з нетраў выведзе заўжды,
Яшчэ Пярун у паднябессі,
Ўладар маланак і вады.

Жыла з багамі ў добрай згодзе,
Іх спагадаючы жыццю,
Як каляда закарагодзіць,
Прасіла шчыра на куццю.

Капусту высадзіць на градах,
На ўскрайку камень пакладзе.
«Круглей вось гэткая на радасць,
На добры подзіў для людзей.

Па кулаку ўрадзіся, бульба,
Нібыта лес, ячмень, расці.
А ты, хвароба, гніся кульбай,
Каб нас не згледзець, не знайсці».

Як зуб скрышыўся у малое,—
«Закінь за печ, такой бяды!
А мышка дасць табе затое
Не касцяны, а залаты».

Той час вяртае казкі, песні,
З маленства помню сілу слоў.
Зіму прагналі мы ад весніц
І абудзіліся вясной.

Свае радкі ў вянкі звіваю —
Заклён, прысуха, варажба.
І ў снах натомлена лятаю
Туды, дзе хата ды вярба.

## АНУЧНІК

Ляскацеў вазком канёк рахманы,
І да вазка збіраліся жанкі,
Як адчыняўся куфар акаваны
З анучнікавай шчодрае рукі.

Мяняў старызну на дабро такое,
Над чым душа жаночая трымціць.
А тут дзятва настырнай талакою...
Нікога нельга ўвагай абдзяліць.

Дзе ездзіш ты, вясёлы дзядзька з возам?
Нам памяняць бы у цябе цяпер
Лісліваспь, чэрствасць у пыхлівай позе
На шчырасць, разуменне і давер.

Напэўна, ты на пенсіі начамі
Клянеш нягоду і радыкуліт
І з горыччу міжвольна прыкмячаеш,
Што шмат яшчэ старызны на зямлі.

* * *

Як мы жывём, так нам жывецца,
Сябе ствараем добрых, злых.
І светла нам, калі мы свецім,
І горка ад заган сваіх.

А кожны дзень, як злепак, глёўкі.
З чаго агеньчык выкрасаць?
І ад радкоў няма палёгкі,
Калі бяскроўна іх пісаць.

## НА СКРЫЖАВАННІ

Пад шыльдай «Бар» бушуе моладзь
Ад піва з барменскай рукі.
Дарэмны заклікі, прамовы,
Бо любяць піва іх бацькі.

Употайкі у цёмным месцы
Гандляр свой капітал куе,
Таксама у героі меціць
Між тых, хто ўдала прадае.

Ці гэтым дзеткам пашанцуе?
Іх тата ў дзён на віражы
Трыбуны словамі шмальцуе,
Няма калі рабіць і жыць.

Але ж мы ўсе заняты справай,
А як навучыць маладых
Той старшыня, што дзеля славы
Пад бульбу зааpaў клады.

Ёсць мэта — даў прастору сродкам.
Няўжо не сціснe сэрца боль?
Гуляюць чарапамі продкаў
Падлеткі весела ў футбол.

Радзіма, мой любімы краю,
Мільёны маеш ты людзей,
Што працу знаюць, песню знаюць,
Ад іх і хлеб, і добры дзень,

І міласэрнасць, і патоля,
І гонар, і святы зарок —
Не пракладаць на хлебным полі
Нікчэмных і пустых дарог.

2 Зак. 697

## АНЮТА

Пасчэз сняданак некрануты,
Астыў нячэплены абед.
Сядзіць ля веснічак Анюта,
І ёй нялюбы белы свет.

«Звяла нявестка сына з хаты,
Чаму ім тут было не жыць?
А вось сабрала дзетак, латы,
І супраць слова не скажы.

Пайшла ў саўгасную кватэру,
І сын — за дзецьмі ды за ёй.
Цяпер не грукнуць лішне дзверы
Ў самотнай хатачцы маёй.

Адна сыночка гадавала,
Мужык застаўся на вайне.
Ці мала ліха я спазнала?
Ды, пэўна ж, мала яшчэ мне.

Калі і дзе было такое,
Каб не трымаліся бацькоў,
Дамоўкі роднае, святое?
Нібы цыганская ў іх кроў.

Не я адна. Ва ўсіх суседзяў
Дзяцей па свеце не сабраць.
Другі дамоў зусім не едзе.
Ці ад бяды?.. Ці ад дабра?..

Жывіце, дзетачкі, жывіце.
Мо як адолею нуду.
Вось клікну ў прымы дзеда Міцю...
Ці хату цэглай абкладу?..»



Не ведае каханне плагіяту,
Тут кожны геній, творачы свой лёс,
Яшчэ пачуцці ў патаемных спратах,
А думкі ўжо расчулены да слёз.

І хто не адчуваў сябе паэтам,
Калі душа пяе, як салавей,
І лепшыя радкі чужых санетаў
Глыбока разумееш, як свае.

І сам сабе такі здаешся новы,
Нібы на хвалі радасці плывеш.
І ўсе твае памкненні, крозы, словы
Ураўнаважыць могуць жорсткі свет.

* * *

Бярозка ў сасонніку чорным
Як белая жылка дрыжыць.
Ніхто ад нягод не заслоніць,
А трэба ж і восенню жыць.

А трэба з душою наросхрыст
Выходзіць насустрач вятрам.
Не проста? Вядома, не проста.
Інакш як дазнацца, што там,

За белай сляпой завірухай,
За вольнай паводкай вясны?..
Трывае часовую скруху
І сонца вясновае сніць.

# ГОСЦЬ

1

Я думала: вось зараз адыду
Без шкадавання, горычы і болю
І ўжо ніколі, любы мой, ніколі
Сваіх дарог з тваімі не звяду.

Не буду помніць найапошніх слоў,
Не буду помніць позірк самы першы,
Не адгукнуся ні душой, ні вершам
На вэрхал дзён і бестурботнасць сноў.

Не захачу вяртацца і вяртаць,
Што пражыла па волі захаплення.
Не з'явіцца таемнага памкнення
Табе паспавядацца у лістах.

Я ад цябе спяшала назаўжды,
З палёгкай сэрца поўніла спакоем.
Шчыміць душа? Дык час усё загоіць...
О, як я памылялася тады!

2

Я ведала: ты госць майго жытла,
Натомлены будзённасцю турботнай.
Не шкадавала словаў і цяпла,
Мне і самой было на свеце слотна.

Я ведала: ты госць маёй душы.
І прыручала твой ласкавы голас.
Ужо яго ўва мне не заглушыць
Адлегласці і цягніковым колам.

Я ведала: ты госць, ты толькі госць.
І нас чакае хуткае расстанне.
Дык для чаго мне гэта? Для чаго?
Няма адказу. Ёсць маё каханне.

* * *

Аерны беражок, карункавы.
Спяшае рэчка нацяньні.
Люблю твой домік за Бабруйкаю,
Пафарбаваны у блакіт.

Люблю таемнасць ціхіх вокнаў
Ў аздобе белых аканіц.
Як там? Ці сонечна? Ці слотна?
Што мроіць дзень? Што ночка сніць?

Як я хачу праз вокны тыя
Зірнуць хоць раз на белы свет...
А мы чужыя, мы чужыя,
Мой самы блізкі чалавек.



Стаялі поплеч тры дабрадзеі,
Зычліва ў вочы мае глядзелі.
І дакаралі, і суцяшалі,
Жыццё ўскладалі маё на шалі.

І сталі раіць мне дабрадзеі:
«Нашто старыя табе надзеі?
Даволі смутку, даволі болю,
Накінь, як хустку, другую долю;
Ранейшай годзе,
Хай адыходзе...»

Другая доля нібыта й грэла,
А памяць болем старым гарэла.

## НАЧНЫ ЗВАНОК

Хто ты? Брат таемны мой ці сябар,
Што пазвоніш і маўчыш, маўчыш?..
Каля тэлефона я прысяду,
Слухаючы шолахі ўначы.

Слухаю далёкае дыханне,
Невыказнасць словаў трапяткіх.
Той званок — надзея на адхланне,
Той званок — як горычы уздых.

Ён нас разлучае і яднае.
Адплывае ноч у даўніну.
Цішу, бы галіны, развінаю.
Як тваё маўчанне пасягнуць?

Пра мяне не думай, не турбуйся,
Я паплачу й на чужым плячы
І ад слёз са смехам адракуся...
Знаць бы, чым табе дапамагчы.

## ПІНСКІЯ ТКАЛЛІ

Стварылі з промняў сонечных аснову,
Уток з палескіх песень навілі.
Пераплялі таемнай сілы словы
З вясноваю мелодыяй зямлі.

Такія выйшлі з добрых рук палотны —
Не адвядзеш захопленых вачэй.
І шэры дзень пры іх глядзіць святочна,
Гамонка і прыветней, і званчэй.

Яшчэ нявестам толькі сняцца строі,
Што ператвораць іх у чараўніц,
Калі палотны гэтыя пакрояць,
Завершыць справу шчаснай долі ніць.

Яшчэ жанчынам мрояцца гардзіны
З палотнаў тых, што ад чужых вачэй
Атуляць іх з жаданым і адзіным
Між слотных дзён і зоркавых начэй.

Няхай матулі, што пасаг збіраюць
Для любых донек, едуць хутка ў Пінск
І посцілкі такія выбіраюць,
Якіх нідзе на свеце не купіць.

І я здымала ўзоры ў цёткі Ганны,
Не маючы пакуль сваіх дачок.
Ой, звяжа назаўсёды нас, каханы,
Падораны мне ткалляй ручнічок.

## БАБЫЛЬ

Ён занядбаны,
як здзічэлы сад,
яшчэ праменіць
цеплыню, спагаду,
яшчэ цвіце,
ды знакі заняпаду
пануюць на лістоце
і пладах.

Яшчэ галінкі
песціць па вясне,
а крона ўжо дачасна высыхае.
Яшчэ і ў мроях,
і ў світальным сне
нястрэтую адзіную чакае,
хаця згубіў яе
шмат год назад...
Надзеямі жыве
здзічэлы сад.

# МЫ

Як ні крычы,
ні бі сабе у грудзі,
без нас з табой
не спыніцца жыццё,
ўсё гэтак жа
спяшацца будуць людзі
па праўду, па любоў,
па адкрыццё.

Не збіцца б з кроку
ў гэтым вечным руху,
мы толькі міг,
і наша права ў тым,
каб непамерны
браць цяжар на рукі
і несці
да святла і дабраты.



Спарышнік, трыпутнік,
Гаючы зялёны мурог!
Дзякуй вам, травы,
За вечнае ваша вяртанне.
Прыходжу да вас
Ад непрытульных муроў
Пакаяцца за маўчанне.

Дарогі радзімы —
Праз вёсачкі і гарады.
І скрозь
— абеліскі
Ды ўтома сівая кургання.
Нашчадна адораны
Думкі мае і гады
Песнямі продкаў,
А я адплаціла маўчаннем.

Як асляпіла,
Як шчасцем мяне апякла
Вялікая тайна
І светлая горыч кахання.
Моўчкі ў сабе пахаваць
Гэту буру змагла.
Каюся за маўчанне.

Вось яна, кара,
Нібы за няздзейснены грэх,—

Жыць з неаплатных даўгоў
І расчараванняў.
Выплесні, сэрца,
Праз слова
Мой плач і мой смех.
Каюся за маўчанне.

## ПАШТАРКА

Паштарка Таня тупае па вёсцы,
Цяжкая сумка муляе плячо.
Зіма ёй сцежкі галалёдам мосціць,
А лета высцілае спарышом.

Лісты разносіць з радасцю ці скрухай,
А ёй не пішуць ніадкуль лістоў.
Паштарка Таня, дзеўка-векавуха,
З вайны не прычакала жаніхоў.

І смутак часам думкі запалоніць.
Эх, маладосць мінула, нібы ў сне!
Якою Таню прыгажуняй помняць
У пасляваеннай зваблівай вясне.

Якою знаюць добраю кабетай.
«Прысела б, Таня, трохі адпачыць».
Садзіцца да жанчын, і хваліць лета,
І папраўляе рэмень на плячы.

«Старэю, дзеўкі, і хварэю часта,
Ні зграбнасці, ні лоўкасці ў руках.
На пенсію пара, бяда, начальства
Не можа мне замену падшукаць».

Жанкі ёй спагадаюць на дарогу
І прыкмячаюць сівізну ў касе,
Але пры гэтым уявіць не могуць,
Што нехта іншы пошту прынясе.



Я насяляю мроямі гару,
Зялёны бераг жвавай Беражніцы.
Штодня вітаю золкую зару,
Каб першай сонцу ў вочы падзівіцца.

Тут спеўна ад птушынай гаманы.
Тут воля і спакой — усё дазвання.
Сюды ўначы прыходзяць перуны,
Грукочуць між сабою да світання.

І льюцца жыццядайныя дажджы
Над неабсяжнай чэрвеньскай зямлёю.
І кожная травінка мкнецца жыць,
Цвісці і упрыгожваць свет сабою.

## СЕРПАРЭЗНІК

Серпарэзнік глянуў
На мяне з патоляй.
«Што шукаеш, Ганна,
Супраць ночы ў полі,
Дзе залётны вецер
Абтрасае росы?
Вось маё сукведце,
Запляці у косы...»

«Серпарэзнік-зёлка,
Дзякуй за патолю,
Не цябе да зоркі
Я шукаю ў полі.
Пра хлапчыну мару,
Праз хлапчыну гіну,
Што мой серп на хмару
Чорную закінуў.
Мой сярпок над полем
Ноччу не згасае.
А хлапец-свавольнік
Іншую кахае».



Пераражыць на сто гадоў свой боль —
Аптымізму больш, чым дастаткова.
Возера — шчаслівую падкову —
Атуляе гаманлівы бор.

Патаемны шолах трыснягу,
Пах лазы і плёскат стылай хвалі...
Тут юнацтва мроі праплывалі,
Толькі ўспомніць іх я не магу.

Аксамітна свежы бераг мой,
Ты непазнавальны і далёкі.
Над табою хмурацца аблокі,
Сонца засланяючы сабой.

Без гаркоты веку не пражыць,
Я ж да шчасця дзень пры дні імкнуся.
Сцежку мне крылом накрэсліў бусел,
Хоць над ёю часам дождж імжыць.

* * *

Я ніколі цябе не страчу,
Дзе б турботы мяне ні вадзілі.
Адпяюць нас гады ці аплачуць,
Я заўсёды з табой, адзіны.

Мы не ведаем развітанняў.
Нас адлегласць не астудзіла.
Я чаканнем жыву і вяртаннем
У наступнае наша, адзіны.

Тлумнасць дзён і самотныя ночы.
Сто дарог без цябе я схадзіла.
Хто б са мною побач ні крочыў,
А ў вачах толькі ты, адзіны.

Ты — і шчасця салодкі дотык,
Ты — і болю прыліў гарачы.
Дзе ты? Як ты? Ні сёння, ні потым,
Я ніколі цябе не страчу.

## ТАРАСАВА СЛОВА

Па вечарах збіраліся суседкі
У мазанцы ўдавы Марыі Тронь.
Як змоўніцы і ўражлівыя сведкі
Распальвалі паэзіі агонь.

«Дівчатко, почитай...» І я чытала
Шчымлівыя паэмы з «Кабзара».
І роднасць у вачах жанчын світала
Слязою спачування і дабра.

Як наймічку сардэчна шкадавалі,
Як разумелі боль яе спаўна!
Сыноў сірот і самі ж гадавалі,—
Асіраціла белы свет вайна.

Мужоў забрала, не знайсці магілаў,
Хоць абеліскі ўсцяж каля дарог.
На ўсю зямлю гукаць: «Вярніся, мілы!»—
І абдымаць на ўзгорачку мурог.

Я стрымлівала слёзы і чытала.
Малая, а цягнула да канца.
І новую старонку адкрывала
Не кнігі ўжо, а ўласнага жыцця.

## ГАСЦІНЕЦ

«Вазьмі вось хоцімскае сала
З маёй радзімы. Смаката!
А сыну скажаш, што спаткала
Ў дарозе зайца... ці ката...»

Бяру гасцінец ўсхвалявана.
Я сыну праўду раскажу
Пра Вас, сівога ветэрана,
Пра Вашу добрую душу.
Пра пакаленне, што і ў горы
Святла не страціла свайго,
Еўропе радасныя зоры
Прынесла з чырванню сцягоў.

Запомніў Вас Дняпро навекі
Сярод неміласэрных страт
Як змагара і чалавека.
Вы назаўжды яго салдат,
Хоць пастарэлы, пасівелы,
Ды з песняй велічных гадоў...
Над Лоевам хмурынкай белай
Кружляе Ваша маладосць.

## МУЗЫКА І МУЗА

Служыла Музы́ку Муза,
Насмешніца і весялуха.
Любіла пакпіць і парумзаць,
Параіць і проста паслухаць.
Злавала — увагі ёй мала,
Або замаўкала ў смутку,
А часам хвацка скакала
Пад Музыкаву дудку.

Музыка — уражлівы хлопец,
Намучыўся з ёю даволі,
Аднойчы вырашыў: «Хопіць
Такой праклятае долі,
Няскладнай, бязладнай жыткі.
Колькі цягнуць абузу!»
Няхітрыя склаў пажыткі,
Пакінуў Музыка Музу.

...А неяк прысеў на змярканні,
Прыклаўшы да вуснаў дудку,
Зайграў. Ды было тое гранне
Як водгук былога смутку.
Тады ў юначым запале
Завёў небывалае штосьці,
Толькі было тое гранне
Як водгук былой весялосці.

Няўжо ты зламалася, дудка?
Ці адступілася шчасце?

Ні з радасці, ні са смутку
Не мог новай песні скласці.
На дудцы ён болей не грае.
Не возьмеш натхнення ў пазыку.
І дудка дарма прападае —
Пакінула Муза Музыку.



Мала што з мары юначай збылося.
Іншай надзеяй дзень мой сагрэты.
Вецер бяздомны ў садзе галосіць.
Праводзіны жніўня — праводзіны лета.

Як адцвіло яно, як адгарэла!
І не шкада ні пяшчоты, ні ласкі.
Ліўнем студзіла, промнямі грэла
І чаравала купальскаю краскай.

Лета кароткім, як свята, здалося.
Пуста на полі, у лесе — самота.
Сумна ўсміхаецца мудрая восень:
Праводзіны птушак — праводзіны года.

# СЛУХАЮЧЫ НЕБА І ЗЯМЛЮ

## 1. Песня

У час, калі шаноўны тэлевізар
Яшчэ ў кватэрах не запанаваў,
Сям'ю збіраў нярэдка вечар шызы,
Супольнасці часіну даруваў.

І скуль, не знаю, вынікала песня,
Душою выдыхалася, жыццём,
Падзеяй горнай, успамінам веснім.
У кожным слове — шчырасць, пачуццё.

І я пяўмела свой дзіцячы голас
Уводзіла ў агульны добры лад,
Спачатку асцярожна, ціха, квола,
Ды голасна, нястрымана пасля.

Ужо не чула ў песні анікога,
Старалася сябе перакрычаць.
Ды нечакана і зусім не строга
Рука майго кранalася пляча,

І далікатна, каб не скрыўдзіць словам,
Шаптала маці, мякка, як трава:
«У песні ёсць другі і першы голас...
Ты не крычы, а слухай і спявай...»

Нялёгкаю была навука тая —
Імкпуцца слухаць, помніць, разумець.
З яе нібы з пакуты вырастаю,
І гэта не канчаецца на мне.

Зямля і людзі прагнуць разумення.
І ўночы — зорны шэпт, нібы трава:
«Даволі гневу, войнаў, разбурэнняў...»
Не пракрычаць бы гэта — праспяваць.

## 2. Мікранезія

Амаль сорак гадоў ЗША «апякуюць» Мікранезію. Пентагон выбраў атолы Бікіні і Эніветак для выпрабавання ядзернай зброі.
З газет

Мікранезія, мікразямля.
Пальмы песцяцца лёгкім брызам,
Акіяна сіняя рыза
І прыбою бялюткі шляк.

Астравы, астравы, астравы,
Нібы пацеркі на аксаміце...
Ды багацця іх не лічыце,
Палічыце іх беды вы.

Тут забіты атол Бікіні,
Тут забіты атол Эніветак.
Не ўзрасціць ім ніколі кветак,
Дзе жывое дазвання гіне.

На атолах грыбы вырасталі,
Што рассейвалі смерць па свеце.
Смерць — на ветразь рыбацкі, на
веццe,
На людзей, што жыццё віталі.

Смерць асела ў пыл на дарогах,
Смерць у ветры вільготным і свежым,
Смерцю дыхае ўсё бязмежжа —
Чалавецтву перасцярога.

Мікранезія, мікразямля,
Як цябе ўратаваць ад нядолі?
Астравы і атолы ад болю
Пракладаюць на дно сабе шлях.

Перакрэслілі неба нашчэнт
Самалёты чужыя хіжа.
Як табе ў гэтым пекле выжыць,
Дзе зямля — палігон і мішэнь?

Мікранезія, мікразямля,
Як малая мадэль планеты,
Для мяне ты зусім не за светам,
Каля сэрца майго пралягла.

### 3. Маналог палігона

Мяне ўзаралі выбухі гармат,
Засеялі асколкамі і друзам,
На мне жыццю прыстанішча няма.
Агонь і смерць! Ды я не ў іх саюзе.

З людскае ласкі я палеткам быў,
Гарматам успамінаў тых не сцерці:
Спяліў жыты да часу малацьбы...
За грэх які я стаў палеткам смерці?

То грэх не мой, а чалавецтва грэх.
Пакуль жыве ў ім хцівасць і варожасць,
Валодаць прага — вось што верх бярэ!
А ці сабой яно валодаць можа?

У войнах, у палітыцы, сяўбе
Ты, чалавек, затузаны, стамлёны.
Ўтаймуй ліхое, не забі сябе,
Засей жыццём і хлебам палігоны.

### 4. З правам рашаючага голасу

Прарок Іезекііль,
                                        пра што ты просіш?
Каб ведзьмы не лавілі чыстых душ,
Каб не губілі чысціню і просінь,
Натхнёнасць мар і летуценнасць дум,
Каб не знішчалі тых, хто жыць павінен,
І каб не даравалі жыцці тым,
Што ўжо не могуць змыць грахі, правіннасць
Ні перад грэшным, ні перад святым,
Хто век пражыў з хлуснёю і разбоем,
За трыццаць грошаў ці за трыліён
Прадаць гатовы самае святое
І самае надзейнае сваё.

Прарок Іезекііль,
дарма прасіў ты,
Дарма да бога рукі уздымаў.
Прасейвалі тысячагоддзяў сіты
Дабро і зло, надзею і падман.
Пакуль адны складаюць лінкас зорны,
Гукаючы істот з другіх планет,
Другія ўсё рыхтуюцца да войнаў,
Якія здольны знішчыць белы свет.
Дабро ці зло? Рашаючы наш голас
У кожнага — староннiх тут няма.
Няхай жыве дзіця, і спелы колас,
І летні дзень, і белая зіма.
Я галасую за жыццё і шчасце.
Са мною заадно мільёны душ.
Чаму ж так цяжка галасы нам скласці,
Каб папярэдзіць страшную бяду?

### 5. Пра цуды

Фантазіі бярэ навука ў межы,
Да формул зводзіць іх, да прастаты.
Вышэй хвалёнай Вавілонскай вежы
Узносяцца касмічныя масты.

І ў разуменне звыклае не змесціш
Адлегласць, час, прастору, далягляд.
Амерыканец, што ступіў на Месяц,
Па чалавецтву брат мне і зямляк.

Штось новае адкрые нам дасведце.
Няма куды царкве багоў сяліць.
Было сем цудаў некалі на свеце,
А што цяпер у цуды залічыць?

Нішчымнай прозай поўніцца наш
ветразь.
Пабачыш чорта — прымеш за казла.
Палешука, што заблудзіўся ў лесе,
Палохае залётны НЛА.

Ды чым ні быў бы век наш асаблівы:
Адважнай справай, мудрым пачуццём
Ці пустазвонствам, модаю крыклівай,
А для людзей заўсёдны цуд — жыццё.

### 6. Тхаху

Жыхары вострава Добу (Новая Гвінея) лічаць, што кроў забітага чалавека дзейнічае на забойцу як атрута. Забойца і людзі, з якімі ён мае зносіны, заражаюцца небяспечнай хваробай тхаху.

Тамтам грымеў,
Вяшчаў тугу і гора
І клікаў племя
На суровы суд,
Світанкам сёння
Правадыр Нумора
Забіў суседа
Добрага Нансу.

Не смей, Нумора,
У сяло заходзіць,
Не смей ступаць
Пад родную страху,
Ў крыві тваёй
Атрута карагодзіць,
Ў табе сядзіць
Забойная тхаху.

Дзе пройдзеш, там
Праклятая сцяжына,
Тхаху ў крыніцы,
Дзе пап'еш вады,
Тхаху — калі кранеш
Рукою сына...
Ідзі ад нас,
Нумора-правадыр.

Не заразі
Жытло сваё і племя,
З душы сваёй
Атруту не пралі,
Не сей нічога,
Не праб'ецца зерне
Тут,
З апаганенай табой
Зямлі.

Тамтам грымеў,
Вяшчаў тугу і гора.

Вяршыла племя
Справядлівы суд.
Ў нябыт пайшоў
Асуджаны Нумора,
І заставаўся
Пры жывых
Нансу.

### 7. Вузлы жыцця

Зямля, нібы разгорнутая кніга,
Чытай яе дзівосны тайнапіс.
Плыві па ёй развесненаю крыгай,
Прастору, волю і спагаду пі.

Спасцігні мудрасць вечную плямёнаў,
Іх мовы, звычкі, парыванні, сум.
Складай сябе з іх ведаў і імёнаў,
Іх песні паспытай, нібы расу.

Сам песняй падзяліся, нібы хлебам,
Свайго народа мову беражы.
Няхай дабро трымае наша неба,
Дабру ў няпэўным свеце памажы.

Калі не знойдзеш Вавілонскай вежы
Паміж старых падмуркаў і руін,
Успомні: ёсць на свеце Белавежа,
Слуп Камянецкі ёй малодшы сын.

4 Зак. 697

З яго відны эпохі, войны, бітвы,
Разносяць славу пра яго буслы.
Мы на зямлі жыццём адзіным звіты
У цесныя спрадвечныя вузлы.

Вузлы надзей на сёння і на заўтра,
Вузлы трывог за добрае заўжды.
Тут кожны шчасця і любові варты,
А слёзы нашы не з жывой вады.

## ШЧАСЛІВАЯ СУБОТА

Бабуля хату прыбірае,
Гатуе на сем страў абед,
Хвалюецца, як маладая,
Ды пасміхаецца з сябе:

«На што дурніцы спадзявацца
У шэсцьдзесят ды з нечым год?..»
А ён спытаў: «Як жытка, Каця?
Ці не зламаўся яшчэ плот?»

Ды гэтак светла паўзіраўся,
На слове сама і лавіць.
«Але ж, вядома, паламаўся,
Даўно хацела запрасіць.

Зайдзі, Антонка, у суботу.
І пачастую й заплачу».—
«Ды я на гэткую работу
На крылах, Каця, прылячу».

Так жарт за жарт — і вось турботаў
Ў кабеты зранку поўны рот.
Доўгачаканая субота
І за акном гарбаты плот.

А ўнук пакурвае капрызна
І круціць словы, нібы дрот:

«Нашто табе гэты старызна?
Я сам папраўлю, баба, плот».—

«Не варта, ўнучак, надзімацца,
Работы хопіць і табе...»
І свеціцца ад шчасця Каця,
І варыць на сем страў абед.



Перагарэла сумам і чаканнем
Маё неўратаванае каханне.

Было! І дзякуй за ўспамін харошы,
За еднасці вялікую раскошу,
За рай цяпла, за грэшныя уцехі,
За срэбра слёз і залацінкі смеху.

Перагарэла... Попел лёг на скроні.
А час грыміць на новым перагоне
Да станцыі на людным скрыжаванні,
Дзе сум стары і даўняе чаканне.



Мой субяседнік — сцішаная хата,
Дарма смуткуеш, хутка час бяжыць.
Перабылі з табой самотна свята,
Цяпер пачнём святочна ў будзень жыць.

Прыветна сонца зазірнула зранку,
Гарэза-ветрык прашумеў галлём,
Напяў, як ветразь, тонкую фіранку,
Пакінуў водар лесу і палёў.

За сонцам ды за ветрам дням спяшацца,
Але жыццё нам вымярае праца
І ад усіх нягод ратуе нас.

Мой субяседнік — сцішаная хата,
Калі б яшчэ не заміналі святы
Нам сустракаць наш лепшы, дбайны час.

## БАЛАДА ПРА МАЦІ

Яна ішла па снежным бездарожжы
Са скруткам на руках, маленькім сынам,
Два аўтаматы, як вачэй правалы,
Ёй рулямі нацэліліся ў спіну.

Сляды пісалі жорсткі прыгавор.
І кожны крок, то крок насустрач смерці.
Як зберагчы, агарадзіць дзіця?
Адно пякло ёй, разрывала сэрца.

Дзе выйсце? Дзе? Ламаюцца хвіліны.
Спыніся, час! Дапамажы, зямля!
Жывога сына маці у магілу
Ў сваіх руках сама нясе, сама.

І раптам, нібы вырвала з грудзей,
Як крылы птушка, выпрастала рукі
І палажыла на бялюткі снег
Той найдарожшы, найраднейшы скрутак.

Тады ўсміхнуўся раўнадушна кат:
«Няхай ляжыць, хто тут яго натрапіць?
Замерзне й так,
Ці варта кулю траціць?»

Надзея мільганула: будзе жыць,
А ўсё астатняе — зусім не страшна.

Зямля мая, прымі яшчэ адну,
Акрый снягамі маладымі страту.

. . . . . . . . . . . . . .

Сляды жанчыны нібы прагарэлі.
Юнак па іх прыходзіць да магілы,
Куды заўчасна маці адышла,
Заўчасна рукі любыя зламыла.

# НАД ДНЯПРОМ

Перад дарогай, песняю і доляй
Спынюся на абветранай гары.
Насенне палявой травы ў падоле
На сонцы залацінкамі гарыць.
Паўднёвы вецер апякае скроні,
Ляціць у задняпроўскія лясы.
Адсюль Радзіма, нібы на далоні:
Яе шляхоў і рэчак паясы,
Яе палі, дзе родзіць лён ды жыта,
Дзе есць іржа вайны мінулай друз.
Тут свет наскрозь прасякнуты блакітам
І цеплынёй вачэй людскіх і рук.
Усе мае набыткі тут і страты,
І колькі б ні прыйшлося мне пражыць,
Заўсёды па-над дзедаваю хатай
Маёй любові ластаўкай кружыць.

## ДА АМАТАРАЎ ПАЛЯВАННЯ

Забаронена паляванне.
Уваходзьце ў лясы світальныя,
Назірайце, малюйце, здымайце,
Ці апалае лісце збірайце.
Думкам вольна ў такіх спатканнях.
Забаронена паляванне.

Вы, святошы ў парчовых расах,
Рознай веры і рознай расы,
Што пакорнасць уводзіце ў вупы,
Як палюецца вам на душы
І сумленныя і заганныя?
Забаронена паляванне.

Вы, прыхільнікі бомбы нейтроннай,
Што вам сніцца на вашых тронах?
Мікрафоны гудуць ваяўніча,
На людзей ідуць паляўнічыя,
Прагнуць вечнага панавання.
Забаронена паляванне.

Забаронена паляванне.
Трэба ўпэўненасці землянам
У наступным і годзе, і веку.
Столькі можна расці чалавеку
Да вяршыняў дабра і пазнання!
Забаронена паляванне.

* * *

Скрэсліўшы вершы свае і паэмы,
З начэй недаспаных выходзяць паэты
У будні, дзе ўсе набалелыя тэмы
Сэрцу дыктуюць высокія мэты,
Сэрцу дыктуюць словы надзеі,
Словы любові і даравання.
Вечны адбітак часовай падзеі,
Дзе лёсы звычайных людзей
скрыжаваны.

Смерці і страты аплоціш слязамі,
Любоў і жаданні аплоціш крывёю
З думай пра тых, што прыйдуць за намі.
З думай пра тых, што сышлі з даўніною.
Тораць паэты дарогу праз церні,
З нетраў жыцця — услед ім папрокі,
Адорваюць зрокам збалелую цемру
Палескія хлопцы, зямныя прарокі.

## ДЗЕД

Ён ля варштата шчыруе,
Габлюе духмяныя дошкі
Ці слухае дзічку старую,
А вочы — блакіт дняпроўскі.

Пасадзіць мяне на калені,
Усмешкаю высушыць слёзкі:
«Ах ты, мая маленькая...»
А вочы — блакіт дняпроўскі.

Што за свой век уведаў!
Дарогі па войнах уроскід.
Ці мала пабачыў бедаў,
А вочы — блакіт дняпроўскі.

Знаходзяць зімы і леты
Магілу яго за вёскай.
Над хатаю і над светам
Ззяе блакіт дняпроўскі.



Мой кожны дзень у працы дацямна.
Ствараю свет вакол сябе з любові
Дзе жэстам, дзе усмешкаю, дзе словам,
Хаця работа зразу не відна.

Я на зямлі і дня не пражыла б,
Паветра не хапіла б для дыхання,
Каб не была народжана з кахання,
Каб да любові па жыцці не йшла.

Хто не любіў мяне, дарую тым,
А хто любіў, хачу дабром аддзячыць,
Бо кожны з іх так многа ў лёсе значыць,
Яны мяне ляпілі з дабраты.



Сплыла вада з вясёлага балотца —
І лотаць знікла, як з вадой сышла.
І на лужках не беляцца палотны,
І горад падступае да сяла.

Адзіна бор адвечны за палямі
Сінее, кліча казкаю старой.
Пайду туды і недзе на паляне
Дзядулю Рэха стрэну пад сасной.

* * *

Дзень мурашыны —
Стома ды турбота,
Затузаная
Горкая душа.
А выпадае
Іншы раз работа,
Што вырастаюць
Крылы ў мураша.

# ВЕРА

*Памяці мастакоў, якія змагаліся і загінулі ў блакадным Ленінградзе ў час Вялікай Айчыннай вайны.*

I

Зноў па начах навальваюцца сны,
Нібы працяг ваенных кінахронік:
І жорсткія аблавы, і пагоні,
А я ж зусім не ведаю вайны.

Пражыць чужое блізкае жыццё,
Хаця магу я ў нечым памыліцца,
Жыццю, як даўняй песні, адрадзіцца,
Маёй зямлёй не ходзіць забыццё.

II

Такі звычайны лёс у Мастака,
Што з іншымі
І з ім павінна стацца.
Пакуль хоць кропля сілы ёсць ў руках,
Для Перамогі — праца і мастацтва.

Праз тоўшчу тынку
На глухой сцяне,
Нібы праз шкло,
Праступяць словы раптам.

І чырванню па белым паласне
Трывожны кліч
Ваеннага плаката.

## III

Эцюды з натуры —
Голад і смерць.
Прамерзлыя сцены кватэры.
«Ці змогуць пасля
Мяне зразумець,
Пачуццям маім паверыць?

Не спачування ў нашчадкаў прашу
У цяжкасцях нашых без меры.
Высокую праўду ў сабе нашу —
У Перамогу веру!»

## IV

Твары шэрыя... стома... чаканне...
Толькі людзям застацца людзьмі.
Наваліцца на гора грудзьмі
У страшэнным выпрабаванні.
І начэе ледзь выспелы дзень,
Покуль бомбы скідае вораг.
І нявечыцца, трушчыцца горад...
А Мастак малюе людзей.

## V

Цяплела майстэрня, святлела.
З вясновымі фарбамі крэўнасць.
Цьмяная свечка датлела,
Адчула сваю непатрэбнасць.
І кветкі дзівосна цвілі,
І так усміхаліся людзі —
Вялікае свята зямлі.
Прадбачыў, такім яно будзе.

## VI

Ці ў святочны, ці ў будзённы дзень
Азорана дабром маё жытло —
То Перамогі вечнае святло.

На скразняках здарэнняў і падзей
Зямным нягодам даць імкнёмся рады —
То Перамогі велічная праўда.

Наш зорны шлях:
Памкненне, адкрыццё —
То Перамогі вечнае жыццё.



Пакінулі луг мой дзівосы.
І казак нідзе не чуваць.
Звіняць па-над берагам косы,
І падае ніцма трава.

Ёсць толькі работа, работа.
Стараюся, каб не адстаць.
Памарыць няма калі, потым.
А дзень — і канца не відаць.

Спякотай сыходзяць нябёсы,
Дажджу выглядаць не з рукі.
Пакінулі бераг дзівосы,
Ды побач жывуць дзівакі.

## ТЭАТР

### 1

Праклінаючы долю і волю,
Я чакаю жаночую ролю
Закаханай, жаданай, адзінай.

Пасівеў ад чакання гадзіннік.
У грымёрнай рассохліся дзверы.
Рэжысёры глядзяць з недаверам.
Ім адказваю з крыўдай і болем:
«Я чакаю сапраўдную ролю».

Грым жыццё мне наводзіць спехам.
Адгукнуся слязою ці смехам
На маршчынкі, на белыя пасмы...

Дзе ты, любы, дзе ты, мой ясны,
І паплечнік, і сябар сардэчны?
Ты паклоннік ісцін бясспрэчны?
І жывеш, як належыць мужчыну,
Між турбот у сям'і дабрачыннай.
Толькі ловіш сябе міжволі,
Што інакшай хацелася ролі.

### 2

Шляхі — як тайны, тайны — як грахі,
У іх спавядацца рана або позна.

Прасіць у маці рады не з рукі,
Занадта час мы разумеем розна.

Мне сын начамі сніцца немаўлём,
Хоць ростам за мяне даўно вышэйшы.
Мінулае зусім не адплыло.
Там смутак мой і сынаў крок найпершы.

Вось сябар быў, а раптам вораг стаў.
Ніякіх правіл у гульні нязвыклай.
Прыйшла парады ў гаваркіх спытаць.
За так парады тут даваць адвыклі.

Як проста чалавека зразумець.
А колькі непачутых адлятае.
Мой лёс — каханне вечнае апець.
Кахаю я. Абраннік не кахае.

Зашмат тэатра ў кожнага ў жыцці.
І адкрываем для сябе нязменна
У самым патаемным пачуцці
Кулісаў пустку і багацце сцэны.

* * *

Залюляла мора, бы калыска:
Не адкрыць вачэй, не ўзняць рукі.
Мне ўсё роўна, што там зараз блізка —
Бездань, скалы, жоўтыя пяскі...
Кім я, хваляй ці русалкай, стала,
Што жыву без стомы і трывогі?
І мяне, як кроплі, зараз мала
І, як мора, неабсяжна многа.
Заганяю рыбу ў вашы сеці,
Караблі паважныя нашу,
І заўжды вам тая радасць свеціць,
Аб якой у мора папрашу.
Я другога лёсу не жадаю...
Толькі, нібы ўспышка — успамін,
Што мяне на беразе чакае
Мой малы, такі няўмелы сын.

## ШЧАСЦЕ

Ён шчасце сваё прымроіў
У вобразе птушкі дзіўнай.
Ён долю сваю перакроіў,
Зямлю і ваду схадзіў ён.

Але дачакаўся аднойчы,
У рукі шчасце прыйшло:
Цёмнай і слотнай ноччу
Трапіла птушка ў сіло.

Такая! Вачэй не адвесці,
Не наглядзецца павек,
Ён быў шчаслівейшы ў свеце
Сярод людзей чалавек.

Ён птушку прынёс дадому,
У клетку яе пасадзіў.
Ля птушкі той невядомай
З гадзіну вакол хадзіў.

Яна шчабятала заўзята,
Прасіла то есці, то піць.
За дзень надакучыла надта
Яму вакол птушкі хадзіць.

Ён клетку яе падмятае,
Капрызы трывае яе.
«Ці тая ты, птушка, ці тая?» —
Сумненне дзяўбе ў галаве.

Пракляў ён і мару, і долю!
Хоць працы было шкада,
Выпусціў птушку на волю —
І тым сабе волю даў.

І слёзы, нібыта лівень,
Каціліся з-пад павек.
Ён зноўку быў самы шчаслівы
Сярод людзей чалавек.

* * *

Хто калыша ў садзе вецце,
Тайна ходзіць, нібы гном?
Гэта ты, шаноўны вечар?
Анікога пад акном...
Толькі подых Нёмна свежы
Ды ўтрапёны салавей
Роднай песняй з Белавежы
Сэрца ласкаю спаўе.
Неба — ціхі зорны прысак,
І вясёлы веташок,
Як Чэшырскі кот Алісы
Ветла ўсмешкаю ўзышоў.



Каб мне не каяцца ў грахах,
У мроях не шукаць адхлання,
Не множ маіх расчараванняў,
Не дазваляй сябе кахаць.

Спакой — надзейная страха,
А воля — думе насалода.
Пакуль між мной і светам — згода,
Не дазваляй сябе кахаць.

Я пачынаю прывыкаць
Да летуценняў немагчымых.
Дык не хлусі, прашу, вачыма,
Не дазваляй сябе кахаць.

* * *

Зноў зіма на дбайных кроснах
Панаткала палатна —
Неабсяжны снегу россып
У марозным бляску дня.

Зранку гэткае раздолле!
Без дарог, па цаліне,
Разгуляйся, вецер, полем,
Прыхапі з сабой мяне.

Песня крыл і позірк шчыры,
Варажба таемных мар.
Гэта наш зімовы вырай,
Не палохае зіма.

Бор акрыў нас цёмным веццем.
Азірнуся на «было».
Зноў адна!
«Бывай, мой вецер!
Беражы сваё крыло».

* * *

Я праводжу цябе да дзвярэй,
Па-сяброўску ўсміхаюся шчыра.
За табою вачэй маіх вырай,
Што чужынцаў з сабой не бярэ.

Ты спыняешся, доўга маўчыш.
Вось задача: пайсці і застацца.
Нам ніколі ўжо не развітацца
Пасярод яснаты і начы.

* * *

Ці я магла б
запомніць тыя дні?
У тлуме гінуць
поўдні і змярканні.
Усё сплыло б
у бездань даўніны
бяспамятна,
каб не было кахання.

Узнагарода — памяць,
памяць — кат.
Пакутны год
нясцерпнага чакання.
Але на што
магу я наракаць,
калі жыццё
азорана каханнем?



Нас хвалявала спелай песняй поле,
І Ясельда галубіла пагляд.
«Я не хачу развітвацца з табою...»
Плыў шолах палыновага быльля.

Як жыць нам паміж праўдай і маною
І не хіліць пакорна галаву?
«Я не хачу развітвацца з табою...»
Расінкі смутку падалі ў траву.

І папракала поўня нас з жальбою,
На ліпень наракала на жніво.
«Я не хачу развітвацца з табою...»
Ляцелі мроі ў зорнае сяйво.

І ноч, і дзень напоўнены мальбою,
А лёс прывык вяршыць прысуд з пляча.
«Я не хачу развітвацца з табою...»
Услед гляджу з адчаем у вачах.

* * *

Сню цябе...
...Ты пралятаеш над горадам
Думкай начною насуперак скрусе.
У небе бязмоўным колеру кобальту
З першаю знічкай не сутыкнуўся б.

Што прадугледзім у лёсе і дні?
Гэтак святочна і гэтак будзённа
Прага палёту, дакука хадні
Ў надзейнае заўтра,
новае ўчора,
цяжкае сёння.

Шыба настылая выстудзіць скронь.
Мудрага ранку як дачакацца?
Будзе гарэць сярод ночы агонь
У імя безнадзейнага нашага шчасця.



Чытаю па напружаных вачах
Самотнасць думак, стрыманыя рухі.
Нашто? Каб потым вершам па начах
Балюча сэрца вырываць з дакукі.
І літасці ў сябе самой прасіць,
Шукаць выратавання ў немагчымым.
І чыстае святло не пагасіць,
Калі нявер'е вые за плячыма.

* * *

Суцешыў сябар незнарок:
«Не паміраюць ад кахання,
Не той цяпер пайшоў народ...»
І тым закрыў маё пытанне.
Сярод развенчаных багоў
Жыве маё наканаванне.
Не паміраюць ад кахання,
А паміраюць без яго.

## ГАРА МІЛОСЦІ

Дзе вецер травы шоўкавыя мосціць,
Дзе мацярдушка і чабор цвіце,
Чакае нас з табой гара Мілосці
Заўжды, як самых дарагіх гасцей.

Вясёлка пабудуе светлы мосцік
Праз азярцо на дальні беражок.
Нас ахіне цяплом гара Мілосці,
Схавае пад галіны ад дажджоў,

Брусніцамі з-пад снегу пачастуе,
Пралескамі і ў студзень зацвіце,
Ад злыбяды і ад нуды ўратуе,
Нібы малых разгубленых дзяцей.

Там салавейка малады да млосці
Нам прысвячае песні ўсе свае.
Чакае нас з табой гара Мілосці,
Шкада, што ты не знаеш пра яе.

## АДНА СТРУНА

Я разумею, струны:
Вас аж сем.
Раздольнасць волі,
Раскаванасць сілы.
Але я чула,
Як адна струна
Аднойчы на самоце
Галасіла.

Які быў спеў!
Які няўтольны сум.
Яго хапіла б
І на дзесяць струн.



Мая душа гадамі шчыравала,
Не знала стомы, сіл не шкадавала,
Стварала вобраз твой, як ідэал.
Яе будзённасці захлістваў шал,
Ёй іншы раз хацелася спакою,
Але яна жыла адным табою.

...І вось ты на вяршыні недаступнай,
Мой ідэал суровы, непадкупны,
Цябе й кахаць амаль што немагчыма,
Гляджу зачараванымі вачыма,
Мальбу маю апошнюю пачуй:
Мой ідэал, мяне не расчаруй!

## ЖЫХАРЫ НЕБА

*Касмічны дзённік*

Яднаю заўтра з дарагім учора
Ва ўладзе мноства дробязных падзей,
Што памяць сто разоў яшчэ паўторыць
За ноч маўчання, і за тлумны дзень,

І за гады работы і сумненняў,
Пакуль жыццё не высмакча Сусвет.
Мы для яго — маленькія імгненні,
Нібы расінкі ранкам на траве.

Я блытала бясконцае з мізэрным,
Адвечнае з часовым на зямлі.
І тайна слова непарослым зернем
Мне невыносна ў космасе баліць.

Я спасцігала мову дрэў і птушак
І безгалоса між людзей жыла,
І дзякуй ім, што ў іх цярплівых душах
Не бракавала для мяне цяпла.

*

Мае сябры — праверaны народ,
А я між іх — галінкаю шыпшыны.
Пераступіла космасу парог
Сястрой малодшай, кропелькай айчыны.

Яны маўкліва ў вочы мне глядзяць,
Гартаючы зямныя успаміны.
І кожны ў нечым сам сабе суддзя
Перад усім, што на Зямлі пакінуў.

А за акном бязмежны свет плыве,
Населеныя зоркамі абшары.
Паплечнікі і рыцары мае,
Высакародствам свецяць вашы твары.

Для вас я сёння абнаўлю убор,
Скафандр накрыю яркаю хусцінай.
І так, дарэчы узяла з сабой
Маністы з недаспелае рабіны.

Як першабытна колеры зіхцяць!
Вясна і лета ў космасе халодным...
Яшчэ нам адраджацца і згараць
У працы і жыцці першапраходным.

*

Па памяці ствараю твой партрэт.
І забыццё ніколі не сатрэ
Ніводнай рыскі праз гады і страты.

Я іншых маляваць бы рада,
Ды навізна іх твараў, як часовасць,
Каб адкрываць у іх цябе нанова.

І кожны вобраз, нібы твой двайнік,
Што незалежна сам сабой узнік.

Жыву табой і памяццю адзіна,
А час цябе мяняе штохвілінна.
І нада мной праклён ці запавет —
Па памяці малюю твой партрэт.

*

Шчасце маё і пакута,
Я да цябе прыкута
Думкаю мімалётнай,
Песняю безвыходнай,
Радасцю доўгачаканай.

Вэлюм не плыў туманам,
Постаць маю не хутаў.
Мараю ці падманам
Я да цябе прыкута?

Слухаеш гоман зорак.
Як мы з табой гаворым
У нашай самоце і скрусе.
Кляновы лісток Беларусі
Калыша твой думны горад.

*

Вось і мінуў дзень сувязі з Зямлёй,
Узбуджаны, святочны, ўсхваляваны.

Такі кароткі радыёпалёт
Да цеплыні, да яснасці, да мамы.

Яна чытала па маіх вачах
Жыццё ў Сусвеце чорным невядомым.
Ёй космас свеціць зоркамі ў начах,
Як вокнамі заселенага дома.

*

Мы абганяем нерэальны час,
Ляцім сваім жыццём абмежаваным.
Які цяжар на стомленых плячах,
Якія лёсы перакрыжаваны!

Таварышы, няхай праз доўгі шлях
Нас не пакінуць шчырыя усмешкі.
Каб зноў вярнуцца нам на тыя сцежкі,
Дзе нас насіла родная зямля.

*

Мая аранжарэя зацвіла,
Пануе водар маладога мая,
Адзінае, што пчол нам не хапае
Ды за акном вясновага цяпла.

Сябры жартуюць: «Першы цуд
Сусвету!»
Яшчэ пабачым цудаў ці такіх...
Але хацела б з лёгкае рукі
Азеляняць далёкую планету.

Трыпутніку лісток душой крану,
Над дзьмухаўцом захоплена схілюся.
І адчуваю шчасце і віну
Перад красою любай Беларусі.

*

...Зноў парушаны звыклы мой побыт
Звонам лісця ў пустой цішыні.
І хвалюецца здзіўлена робат,
Адступае на крок ад сцяны.
Электронна міргае вачамі:
«Зразумець... Зразумець...
Зразумець...»
Йдзе сцяжынкаю паркавай мама...
І апалае лісце, як медзь.

Чую родную спішанасць крокаў,
Толькі ў думках да іх даляцець.
Не паможаш ты мне сёння, робат,
Як такое табе зразумець?..

*

Так светла на душы,
Нібыта ў белым маі...
Каб раз яшчэ пражыць
Усё, што ўспамінаю.

Вяртаюся назад,
А дзень і ранак новы.

Як пацеркі нізаць
Пачуцці мне на словы.

Я прытулю зямлю,
Нібы тваю усмешку,
Самотна пастаю
У вечнасці на ўзмежку.

*

Нарэшце заўтра выхад на арбіту
Планеты незнаёмай і чужой.
Хвалюемся, нібы перад іспытам:
Што там, за неспазнанаю мяжой?
Спяшаемся, рыхтуемся старанна.
А думкі?.. Думкі вечна на зямлі.
Які там сёння усміхаўся ранак?
Якія краскі з ночы зацвілі?..

*

Гады, нібы даўгі.
Чым іх сплаціць? Не знаю.
Супольнасцю тугі
Каханне нас яднае.

Суладнасцю надзей,
Агульнасцю самоты.
А самы горкі дзень —
Яшчэ, напэўна, потым.

Цудоўны маем спрат
Для думак і пачуццяў.
У кругаверці спраў
Нікому не пачуць іх.

Замкнёны гэты круг.
(Кахання акружэнцы.)
Адлегласць нашых рук
І блізкасць нашых сэрцаў.

Мы марым па начах,
А днём пачуцці глушым.
Не згледзець па вачах,
Як выбалелі душы.

*

Так мала мне для шчасця трэба —
Мой край пад вартаю зары.
Мая Зямля — жыхарка неба,
І людзі — неба жыхары.

Усё ў Сусвеце знітавана:
Жыццё і вечнасць, рух і час.
І лёс Зямлі, і зоркі дальняй
У чалавецтва на плячах.

*

Вось побач, побач зыркая планета —
Святло, таемнасць, марыва аблок.

Палонніцай яе плыве ракета,
Намотвае арбіт сляпых клубок.

Як нас стаміла прыгажосць чужая,
Няўпэўненасць наступных нашых
дзён.

Ратуе нас планета? Пагражае?
Фінал пакуль нікому не відзён...

*

Адгукнулася станцыя бліжняя
І спяшаецца дапамагчы.
А планета, замглёная, хіжая,
Хваравіта, нервова маўчыць.
Мы працуем з апошніх сіл,
Эканомім глыткі кіслароду...
...Божа, колькі яго на Зямлі,
На адзінай нашай і роднай!..

*

...Гэта ўсё?.. Ці пылінкай касмічнай
Мне дамоў цяпер даляцець,
Дзе птушыны грай і крынічны,
Дзе звініць лістападная медзь,
Дзе зіма белы баль свой святкуе,
Дзе вясновая квецень садоў?..
Там матуля мая смуткуе,
Там каханне маё і любоў...

Ты са мною, зямля Беларусі,
Жменьку глебы сагрэе рука.
Ты даруй мне, калі не вярнуся...
І чакай, колькі зможаш чакай...

# ЗМЕСТ

**Дудзюк З.**

Д 81 Абрысы лета: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 95 с.

ISBN 5-340-00044-3

Лета — гэта не толькі пара года, гэта пара чалавечага жыцця, калі нешта зроблена, але самае галоўнае і важнае яшчэ наперадзе. Лета — зорны час існавання планеты Зямля, дзе чалавецтва адкрывае тайны Сусвету і на яго плячах ляжыць вялікая адказнасць за сённяшні і будучы дзень.

Д $\frac{4702120200-038}{M 302(03)-88}$ 44—88 **ББК 84 Бел 7**

Литературно-художественное издание

**Дудюк Зинаида Иосифовна**

КОНТУРЫ ЛЕТА

**Стихи**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**Дудзюк Зінаіда Іосіфаўна**

АБРЫСЫ ЛЕТА

**Вершы**

Рэдактар *Х. Д. Жычка*. Мастак *Т. І. Малышава*. Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*. Тэхнічны рэдактар *А. Б. Барадзіна*. Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 2819. Здадзена ў набор 31.07.87. Падп. да друку 25.12.87. АТ 07297. Фармат 60×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,00. Ум. фарб.-адб. 3,13. Ул.-выд. арк. 2,38. Тыраж 4200 экз. Зак. 697. Цана 25 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.